наша свабода

№66(153) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

25 ЧЭРВЕНЯ 2001 года ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



# «Армія прагаласуе супраць Лукашэнкі»

«Армія прагаласуе супраць Лукашэнкі», — такое меркаванне выказаў у размове з карэспандэнтам БелаПАН адзін з прэтэндэнатў на пасаду кіраўніка дзяржавы, былы міністр абароны Беларусі генерал-палкоўнік Павел Казлоўскі. Ён прыбыў 22 чэрвеня ў Брэст на мерапрыемствы з нагоды 60-годдзя пачатку Вялікай Айчыннай вайны.

Паводле словаў Паўла Казлоўскага, раней «75 працэнтаў сродкаў, выручаных ад рэалізацыі ўзбраенняў, ішлі ў бюджэт мінабароны». «За гэтыя 75 працэнтаў, — сказаў экс-міністр, — мінабароны рабіла справаздачу перад мінфінам. За іх будавалася жыллё, павышалася баяздольнасць арміі. Зараз продаж зброі — адна з галоўных крыніцаў так званага прэзідэнцкага фонду. Гэтыя сродкі прыкладна роўныя дзяржбюджэту. З гэтага фонду армія не атрымлівае ні капейкі. Ці зарэгістраваны гэты фонд і ці робіць ён справаздачу па падатках — невядома».

Паводле словаў Паўла Казлоўскага, такое становішча спраў выклікае незадавальненне ў арміі, а «лётчыкі і камандзіры часцей адкрыта абураюцца». Таму, лічыць Казлоўскі, «пры галасаванні на адкрытых участках ваенныя не пойдуць на фальсіфікацыі». Аднак ён дапускае, што парушэнні адбудуцца пры галасаванні на закрытых участках.

Акрамя таго, лічыць Павел Казлоўскі, «Лукашэнка не зможа аб'ектыўна запоўніць падатковую дэкларацыю; яна будзе фальшывай».

**Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН**



Фота IREX/ProMedia

# Откровения от Лукашенко

## *После очередного визита в Москву Лукашенко стало ясно, что наручники ждут очередную группу бывших товарищей*

Очевидно, что прошедший на минувшей неделе очередной визит в Москву Лукашенко стал заметным событием. Но не столь важным, как того бы хотелось союзникам из Минска. Первоначальная программа визита, которую объявлял белорусский посол Григорьев, претерпела существенные изменения. Не состоялась встреча с президентом Российского союза промышленников и предпринимателей Аркадием Вольским. Может быть, заявив о такой встрече, расчет был на то, что она состоится на съезде этого союза, прошедшем на второй день пребывания Лукашенко в Москве? Не пригласили. А общение с журналистами происходило не в формате пресс-конференции или какого-нибудь телегероя дня. Можно отметить, что наиболее популярные итоги визита Лукашенко подвели обозреватели Максим Соколов и Леонид Млечин. Один выступил с уничижительным комментарием на прогосударственном ОРТ, а другой — на лужковском ТВЦ. В частности, Млечин, сказав о схожести скандалов с Гонгадзе на Украине и со следователями прокуратуры в Беларуси, отметил — пленки с записями разговоров Кучмы все же оказались настоящими.

Надо полагать, неудачный для Лукашенко резонанс в российских СМИ его визита и стал той причиной, побудившей его поделиться своими откровениям с группой, как было сообщено, белорусских и зарубежных журналистов. И такие откровения могут представлять определенный интерес. Особенно накануне предстоящих президентских выборов. Так, например, Лукашенко опроверг слухи об исчезновении бывшего Генерального прокурора Олега Божелко. Оказывается, по словам главы государства, он скрывается на подмосковной даче опального бизнесмена Логвинца, сумевшего-таки освободиться от лукашенковских наручников. Там же обитает некогда всесильный президентский завхоз Иван Титенков. На эту группу бывших товарищей заведено уголовное дело «о 42-х миллионах». Не исключено, что белорусская сторона может потребовать их экстрадиции. А пока «дачники» и некоторые другие начинают потихоньку откровенничать вслух. И это не может не беспокоить президентский двор в Минске.

Коснулся Лукашенко в своих субботних откровениях по своему телевидению и темы без вести пропавших своих некогда соратников Юрия Захаренко, Виктора Гончара, а также разделивших их участь бизнесмена Анатолия Красовского и оператора ОРТ Дмитрия Завадского. Было повторена весьма сомнительная информация о том, что будто бы Захаренко звонил своей маме из Украины, а Гончара кто-то видел в Прибалтике. Стоит вспомнить, что с этой информацией знакомили иностранных дипломатов на одном из закрытых от белорусских граждан брифинге в МИД Беларуси. После него исчез еще и Дима Завадский.

*Окончание на стр.3*

# Намек на предвыборные сюрпризы

Лукашенко готов поверить двум прокурорам, которых ранее назвал «пьянчугами», и дать санкцию на эксгумацию захоронений на Северном кладбище в Минске ради поиска трупов пропавших в Беларуси известных граждан.

«Мы ничего не скрываем и, если потребуется, в месте, которое укажут бывшие работники прокуратуры, проведем эксгумацию. Мы можем провести эту работу в присутствии любых экспертов, представителей посольств, общественности», — сказал он.

А.Лукашенко заявил, что не в меньшей, чем оппозиция, степени заинтересован в розыске без вести пропавших бывшего вице-премьера и председателя Центризбиркома Виктора Гончара, его друга бизнесмена Анатолия Красовского, экс-министра внутренних дел Юрия Захаренко, а также оператора ОРТ Дмитрия Завадского.

Лукашенко высказал недоумение в связи с тем, что оппозиционная пресса считает: пропавшего без вести оператора ОРТ Д.Завадского нет в живых. «Я не могу этого подтвердить», — заявил он и произнес весьма загадочную фразу: «А вообще тема пропавших в исполнении оппозиции — очень «заезженный конь». Интересно, как оппозиция будет выглядеть, если накануне выборов кто-то из них снова объявится».

**Всесоюзное агентство «Интерфакс» (www.interfucks.com**

# На Фэст старосветской культуры

В Дудутках прошел республиканский конкурс кузнецов «Золотая подкова». Лучшую подкову получил на счастье Семен Домаш, а писатель Евгений Будинас увенчан дубовым венком за роман «Дураки»

**стр. 5**

# Заява асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацый

Мы, прадстаўнікі грамадскіх аб'яднанняў, якія ўваходзяць у Асамблею дэмакратычных няўрадавых арганізацый, выказваем рашучы пратэст у сувязі з масавымі парушэннямі падчас фармавання тэрытарыяльных камісій па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Мы з трывогай адзначаем, што факт неўключэння ў тэрытарыяльныя камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь прадстаўнікоў дэмакратычных палітычных партый, шматлікіх няўрадавых грамадскіх аб'яднанняў сведчыць пра тое, што ўлады груба праігнаравалі патрабаванні Выбарчага кодэксу, у прыватнасці, арт.35, які дае права прадстаўнікам палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў, іх структурным падраздзяленням вылучаць сваіх прадстаўнікоў у адпаведныя тэрытарыяльныя камісіі.

Больш з чым 600 прадстаўнікоў дэмакратычных палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў, якія былі вылучаны ў тэрытарыяльныя камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, не зацверджаны ніводзін. Гэта сведчыць пра падкрэсленае нежаданне афіцыйных уладаў правесці сапраўды дэмакратычныя, адкрытыя выбары, стварыць празрыстасць выбарчага працэсу ў краіне, а таксама пра страх улады перад грамадскім кантролем выбараў з боку грамадзянскай супольнасці Беларусі.

У сувязі з гэтым Мы заяўляем пра тое, што прадстаўнікі афіцыйнай улады рыхтуюцца да фальсіфікацый на будучых прэзідэнцкіх выбарах і зрабілі першы крок да непрызнання выбараў наогул.

Мы звяртаемся да беларускай грамадскасці і да міжнароднай супольнасці з заклікам звярнуць увагу на факты ігнаравання асноўных прынцыпаў дэмакратычнасці выбарчага працэсу.

Мы патрабуем ад службовых асобаў краіны падрыхтоўкі і правядзення выбарчай кампаніі ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Мінск, 22 чэрвеня 2001 г.**

# Домаш заўважае, а не крытыкуе

Шаноўныя чытачы! Выбачайце за прыкрую памылку, якая незнарок прайшла ў мінулым нумары НАШАЙ СВАБОДЫ щ інфармацыі пад назвай «Домаш уступае ў барацьбу». Апошні сказ трэба чытаць так: »Ён таксама запрасіў да сябе ў госці ўсіх прысутных журналістаў з тым, каб яны агледзелі ягоны дом, які афіцыйная прапаганда падае ў сваіх сродках інфармацыі не інакш як «палац», адмоўна ацаніў уступленне ў перадвыбарную барацьбу Зянона Пазьняка, **які** выступіў з рэзкай крытыкай амаль што ўсіх кандыдатаў у прэзідэнты». Сямён Домаш, вядома, нікога не крытыкаваў, а толькі аргументавана заўважыў, што ўдзел Зянона Пазьняка ў выбарах паслужыць на карысць Аляксандру Лукашэнку. Здаецца, што кандыдат дэмакратычных сілаў мае рацыю. Але пра гэта трэба пісаць асобна.

**Аляксандар ДУБРАВІН**

# На парад грошы ёсць

Паводле адмысловага распараджэння прэм'ер-міністра Уладзіміра Ярмошына, запланаваны на 3 ліпеня ваенны парад будзе каштаваць 1 мільярд 516 мільёнаў рублёў. Гэта болей як 100.000 долараў.

# КДБ на экзаменах

Як паведаміў старшыня Камітэта дзяржкантролю Леанід Тозік, да кантролю за сёлетняй абітурыенцкай кампаніяй будуць прыцягнутыя супрацоўнікі міліцыі і КДБ. А дапамогу ім акажуць шэраг маладзёжных і ветэранскіх арганізацыяў. Будзе дзейнічаць сістэма ананімных тэлефанаванняў пра парушэнні падчас экзаменаў.

# Крымінальная справа супраць БТ

21 чэрвеня Вышэйшы гаспадарчы суд прыняў рашэнне аб узбуджэнні крымінальнай справы па незаконных дзеяннях Нацыянальнай дзяржтэлерадыёкампаніі. Скаржнік — «Відэа Інтэрнэшнл», што займаецца размяшчэннем рэкламы на канале НТБ у Беларусі. Нагадаем, што напрыканцы студзеня 2001 года БТ пачало замяшчаць рэкламныя блокі НТБ сваімі ролікамі. «Відэа Інтэрнэшнл» вымагае спагнаць з БТ 54,5 мільёна рублёў у якасці кампенсацыі па панесеных стратах. Першае судовае паседжанне прызначанае на 28 чэрвеня.

# Італьянцы — «Нёману»

Італьянская фірма *SASIB TOBACCO* выйграла тэндэр на пастаўку абсталявання гродзенскай тытунёвай фабрыцы «Нёман». Гэта 4 лініі па вытворчасці цыгарэтаў магутнасцю 8.000 цыгарэтаў за хвіліну і 6 лініяў па ўпакоўцы прадукцыі, кожная з якіх запакоўвае 250 пачак за хвіліну.

## НАДВОР'Е




**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**1405**

# Откровения от Лукашенко

*Окончание. Начало на стр.1*

А экс-министр внутренних дел Юрий Сиваков, при котором все это и произошло, посчитал необходимым недавно заявить (также избранной группе журналистов) о том, что у него с нынешним главой МВД Владимиром Наумовым не только разница в возрасте, но и психологическая несовместимость. Любопытное откровение о бывшем подчиненном. И вообще, психологическая ссвместимость у нынешних власть имущих представляется отдельной и многообещающей темой.

Не обошел Лукашенко в своих итогах московского визита и некоторых подробностей встречи с Горбачевым. Оказывается, у первого президента СССР такое же обоняние, как и у первого Беларуси. Публикацию в «Независимой газете» об исчезнувшем Генпрокуроре Божелко якобы Горбачев назвал провокацией со знакомым запахом. Но, к сожалению, Лукашенко не стал расшифровывать, в чем конкретно выражается его участие в программах горбачевского фонда. Московские источники утверждают, что уже не один год Лукашенко финансирует Горбачева. Такова ирония судьбы некогда всемогущего Генсека КПСС, который, по словам Лукашенко, некогда доверял ему рецензирование экономических программ Григория Явлинского. Интересно, чтобы сказал на нынешние теплые отношения Лукашенко с Горбачевым друг последнего, архитектор перестройки Александр Яковлев? Помнится, в 1997 году, на сентябрьском саммите в Вильнюсе, на вопрос автора этих строк, в частном разговоре, не желает ли он поговорить с приехавшим на форум Лукашенко, он прямо сказал, что с поклонником Гитлера ему не о чем говорить.

В связи с прошедшим визитом Лукашенко в Москву заслуживают внимание следующие обстоятельства. Он не встречался не только с земляком Вольским, но и названными учителями Лужковым и Примаковым. По некоторым данным, попавший в опалу бизнес Логвинца и Титенкова был тесно связан с московскими мэрией и Патриархией. По слухам, у кремлевских стратегов лежат наготове какие-то уголовные дела, связанные с бизнесом мэра и его супруги. Якобы с их помощью хотят принудить Лужкова покинуть пост мэра и уйти на партийную работу. А Москве придать особый статус субъекта Российской Федерации. Что касается другого неудачника последней президентской кампании в России Евгения Примакова, то ему прочат кресло спикера Госдумы. Нынешний спикер не справляется с буйством и саботажем своих однопартийцев. Да и должного образования Селезневу не хватает. Чего не скажешь о бывшем шефе службы внешней разведки (СВР) и академике. Так что у Путина в скором времени появится в Госдуме коллега-разведчик. Вполне логично для построения нынешней российской власти. Факт отсутствия встречи все еще председателя Высшего государственного совета российско-белорусского союза с влиятельным и авторитетным Примаковым воспринимается в контексте предвыборной кампании в Беларуси. Из окружения Натальи Машеровой, одного из кандидатов в президенты, стали распространять неофициальную информацию о том, что ее будто бы на борьбу с Лукашенко благословил Примаков. Не секрет, что он содействовал трудоустройству в МГУ изгнанному экс-главы МИД Беларуси, российскому гражданину и апологету наследия Петра Машерова профессору Ивану Антоновичу. Вот такие задачки для ученика Евгения Максимовича.

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

# Владимир Гончарик: «Перемены должны быть без потрясений»

*Сегодня белорусское общество готово к экономическим реформам. Почти всем и каждому очевидно – перемены в государстве, в экономике необходимы. Вопрос о реформировании уже ставится так: или перемены или исчезновение Беларуси как независимого, самостоятельного государства.*

*На вопросы НАШАЙ СВАБОДЫ отвечает председатель Федерации профсоюзов Белорусской, экономист-профессионал Владимир Гончарик.*




***— Владимир Иванович, а какой, на ваш взгляд, должна быть форма собственности на землю?***

— К этой проблеме надо подходить с экономической точки зрения. Не будем лицемерить. Собственность на землю у нас давно есть. Часть земли уже находится в открытом обороте. Например, сотни тысяч людей имеют дачные участки. Вы не купите нигде частный дом, чтобы вам не продали участок. Все это узаконено. С другой стороны, существует проблема привлечения инвестиций. Ее можно решить, только лишь определившись с земельным вопросом. Надо сказать спасибо тем, кто хочет что-то построить у нас. Проблема, что мы не сможем ходить по какому-то участку земли, потому что капиталист построил на нем завод, надумана. А что, сегодня вы можете свободно зайти на государственное предприятие и ходить там? Разве пустит вас хороший хозяин на ферму или на личное подворье? Нет, и правильно сделает. Ящур занесете или другие какие-нибудь болезни. Так чего бояться? Это просто профанация самой идеи.

***— На первом Всебелорусском народном собрании, целью которого было безоговорочное одобрение всех инициатив Лукашенко, вы, единственный в президиуме, голосовали против. Не пожалели потом?***

— Нет. Есть моменты в жизни, когда нельзя промолчать. Иначе сам себя уважать перестанешь. Хотя меня и жена укоряла, зачем, мол, полез на рожон. Я прекрасно осознавал последствия этого шага. Считаю, что был прав. Меня потом пытались воспитывать — мол, президент не простит. Но я сделал то, что мог в тех условиях. Проблема в другом – сегодня сбылись мои худшие опасения. Конфронтация в обществе, «охота на ведьм», страх и апатия – основы этих болезней были заложены тогда. И это нужно будет менять в первую очередь.

***— Недавно прошедшее второе Всебелорусское народное собрание приняло программу развития республики на будущую пятилетку. Как вы ее оцениваете с точки зрения экономиста?***

— К сожалению, этот документ такой же надуманный, как и предыдущий. Практически все оценки и прогнозные показатели, заложенные в нем, не обоснованы и требуют корректировки. Например, в разделе «Социально-экономическое положение РБ» как положительный результат работы правительства за последние пять лет, отмечается восстановление управляемости экономикой, обеспечение прироста ВВП, объемов промышленного производства, инвестиций в основной капитал, реальных доходов населения, увеличение ввода жилья в эксплуатацию. В то же время официальная статистика свидетельствует, что в последние годы значительно ухудшилось положение в финансовой и валютной сферах. Растет количество убыточных предприятий, уровень рентабельности субъектов хозяйствования очень низок, увеличивается кредиторская и дебиторская задолженность, падает уровень реальных доходов населения, на складах предприятий скопилось огромное количество невостребованной продукции. Инвестиции в основной капитал не обеспечивали даже его простого воспроизводства. Село сегодня значительно хуже обеспечено техникой, минеральными и органическими удобрениями, гербицидами, чем пять лет назад. Значительно выше запланированного оказался уровень инфляции. Основными причинами такого плачевного положения явились ошибки в проводимой кредитно-денежной и валютной политике, нерациональные государственные расходы.

***— Владимир Иванович, а насколько реальна обещанная этой программой зарплата в $ 250 к 2005 году?***

— Пустые обещания. Судите сами. Если исходить из того, что средневзвешенный курс доллара США по официальному курсу Нацбанка в 2000 году составил 863.8 белорусского рубля, а в народном хозяйстве было занято примерно 4 млн. человек, то при средней зарплате в $ 250 в месяц на оплату труда придется направить около $ 1 млрд. С учетом отчислений в Фонд социальной защиты населения эта сумма составит $ 1.35 млрд. в месяц. А в год – соответственно $ 16.2 млрд. Простые арифметические подсчеты показывают, что в сопоставимых условиях на оплату труда придется направить 14 трлн. белорусских рублей. И если вспомнить, что согласно Программе социально-экономического развития республики ВВП в 2005 году должен составить 12.775 млрд. белорусских рублей, получается, что эта сумма на 10% больше, чем весь ВВП, прогнозируемый в 2005 году. Хочу заметить, что в число 4 млн. человек не входят военнослужащие, студенты, учащиеся, получающие денежное довольствие, государственную стипендию и т.д.

***— Люди хотят жить лучше, но в силу своей консервативности боятся перемен, опасаясь, что реформы могут нарушить существующую «стабильность» в обществе. Возможны ли перемены без потрясений?***

— Не только возможны, они должны быть такими. К потрясениям мы придем в том случае, если перемен не будет. Сейчас экономика вырабатывает последний ресурс, доставшийся нам в наследство от СССР. Ни о каком обновлении основных фондов производства, технологий речь сегодня не идет. Запасов хватит еще на пару лет. И потрясения потом будут такими, что всем мало не покажется.

***— Владимир Иванович, в последнее время на вас нападает не только власть, но и часть радикально настроенной оппозиции, считающая вас «агентом Москвы».***

— Каждый имеет право на собственное мнение. По отношению к России моя позиция однозначна: мы должны жить в дружбе и вместе решать общие проблемы. Но для этого совершенно необязательно маленькой стране входить в состав большой. России самой выгодно иметь в союзниках полноценное государство, со своим голосом на всех международных форумах, а не 90-й регион.

Экономическая интеграция объективна, хотя это совершенно не означает, что в Беларуси официальной денежной единицей должен быть российский рубль, а мы будем постоянно клянчить у старшей сестры кредиты для укрепления дружбы.

**Ричард ЛЬВОВ**

**ВЫБАРЫ**

## Лукашенко на выборах не нужны конкуренты и не нужна поддержка Путина

**Агентство «Ю.С.Ньюс» (www.yusnews.com)**

Белорусский президент Александр Лукашенко 22 июня в интервью придворным корреспондентам назвал целых пять причин, почему ему совершенно не нужна поддержка Владимира Путина на предстоящих 9 сентября выборах.

«Во-первых, мне это не надо. Во-вторых, вы что, сомневаетесь в позиции В.Путина и других руководителей России? По-моему, нет».

Лукашенко сделал весьма оригинальное заявление о том, что не ему, а именно белорусским оппозиционерам нужно сейчас заявление Путина типа: «Я поддерживаю Александра Григорьевича Лукашенко». Цель коварных замыслов оппозиции – «обрушиться и нашим оппозиционным изданиям, и российским уже с критикой на Путина, что он открыто вмешивается во внутренние дела Беларуси. И этим самым они и меня попытаются обвинить, что я якобы из-за пределов страны пытаюсь притащить сюда популярных в Беларуси авторитетных людей, чтобы они, видите ли, меня поддерживали этим».

Затем Лукашенко произнес совершенно сенсационную фразу насчет гипотетической поддержки его Путиным: «А в-третьих, как вы думаете, это сработает положительно для меня или отрицательно? Чего тут будет больше - плюсов или минусов? Я считаю, что минусов.»

После этого белорусский лидер объявил, что его рейтинг «сегодня около 50 процентов, и, несмотря на вот эти провокации, он только повышается». А вот рейтинг оппозиции, по Лукашенко, понижается: «Их рейтинг упал в 2 раза – мы же анализируем ситуацию, которая складывается». Наконец, Лукашенко раскрыл последние две причины своего нежелания иметь поддержку Москвы на президентских выборах:

«Зачем мне просить кого бы то ни было и таким образом потом – простите меня за это – быть обязанным за эту поддержку? Ну и, может быть, пятое – неужели вы моего характера не знаете? Я никогда не буду никого просить об этом. Даже свой народ».

Президент Белоруссии действительно тут же продемонстрировал свой характер, обрушившись на своих конкурентов на предстоящих выборах. «Я веду очень честную борьбу», — заявил Лукашенко и сразу добавил: «Многие кандидаты — это те люди, которых я сделал политиками, вытянув их из небытия. И они меня предали. Деньги — вот главное для них».

Главной предательницей Лукашенко считает Наталью Машерову, дочь погибшего в 1980 году в автокатастрофе первого секретаря ЦК компартии Белоруссии Петра Машерова.

После смерти его семья была фактически брошена и забыта, и лишь он, Лукашенко, после избрания президентом поддержал эту семью: «Я многое сделал для того, чтобы Наталья Машерова была избрана в парламент. И она предала». При этом Лукашенко не пояснил, как именно он поддержал Машерову на парламентских выборах – ведь это противоречит закону. По мнению Лукашенко, Машерова «прекрасно понимает: участвуя в кампании по выборам президента, она играет на руку оппозиционным силам».

Еще одним предателем для Лукашенко стал уже отозванный в Минск посол Белоруссии в Латвии Михаил Маринич, который также стал претендентом на пост главы государства.

«Или наш посол... Ты же песни мне пел и клялся в верности! А сейчас что говоришь?» – заявил нынешний президент и добавил: «Но я ни на кого не обижаюсь».

На Лукашенко тоже никто уже не обижается. Например, если верить Лукашенко, премьер-министр России Михаил Касьянов «абсолютно никак не обиделся» на его критику за «саботаж» выполнения бюджета союзного белорусско-российского государства. «Это даже помогло нашему взаимопониманию», — заметил белорусский лидер. «Мы слишком в хороших отношениях с М.Касьяновым, чтобы обижаться... Это была не столько критика, сколько замечание», — сказал Лукашенко и сообщил, что Владимир Путин поддержал критические высказывания» в адрес главы правительства.

Затем Лукашенко поведал, что «в большей степени М.Касьянов был обеспокоен моей критикой в адрес белорусского правительства». Угрозу отправить в отставку кабинет министров во главе с Владимиром Ермошиным в случае невыполнения каких-либо обязательств по союзным программам Касьянов, по словам А.Лукашенко, воспринял «близко к сердцу», так как у двух премьеров сложились «очень добрые отношения и они стараются помогать друг другу».

Россия и Белоруссия будут помогать друг другу и на другом уровне. На президентские выборы в Белоруссию будут направлены российские наблюдатели. Лукашенко сообщил, что договорился с Путиным как председателем Совета глав государств СНГ о направлении в Белоруссию и группы наблюдателей от стран Содружества. «У нас с Владимиром Владимировичем существуют очень доверительные, искренние отношения», — отметил Лукашенко, который ознакомился с системой работы своего российского коллеги, назвал ее «потрясающей» и намерен применять в собственной практике.

По словам Лукашенко, он попросил, чтобы такую группу наблюдателей прислал в Белоруссию российский Центризбирком, который «пользуется большим авторитетом в Европе».

«Затем мы обсудили вопрос, — это было уже предложение ОБСЕ, — чтобы Россия была наблюдателем и в составе группы ОБСЕ, то есть ОБСЕ высказала заинтересованность в посылке сюда своих наблюдателей», — сказал Лукашенко и сразу же заявил, что располагает информацией о финансировании оппозиционных сил через ряд иностранных посольств в Минске и через Консультативно-наблюдательную группу ОБСЕ.

Лукашенко уверен, что именно по этим каналам на «раскрутку» оппозиционных кандидатов на пост президента «идут большущие деньги». То, что претендентов пока 22, Лукашенко назвал «спланированной и щедро оплаченной акцией, чтобы сбить с толку народ». Он также считает «блефом и профанацией» саму идею выдвижения от оппозиционных сил единого кандидата в президенты. Это, по мнению Лукашенко, невозможно уже потому, что 22 кандидатов не объединяет ни одна общая идея. «Не может быть ничего общего между коммунистом Сергеем Калякиным и правым ультрарадикалом Зеноном Позьняком», — заявил белорусский президент.

«После выборов я все скажу: кто, кому и сколько платит», — сказал Лукашенко, добавив: «Слишком мягко наше телевидение критикует Вика и посольства».

Глава КНГ ОБСЕ в Минске Ханс-Георг Вик так отреагировал на обвинения Александра Лукашенко: «Мы не финансируем белорусских оппозиционных лидеров. Не могу выступать от имени иностранных посольств, но могу сказать, что политические партии не финансируются через КНГ. Это просто одна из многих атак в течение длительного периода в этом году. Раз за разом действующий председатель ОБСЕ и государства-члены ОБСЕ отвергали критику в адрес КНГ, и этого достаточно».

Посол Вик отказался комментировать заявление Лукашенко о работе телевидения, но на вопрос, не ожидает ли он новых телеатак на миссию ОБСЕ в Минске, ответил так: «Мы увидим. Подождем и увидим».

# У выратавальнікі ТБМ просіць генпракуратуру

*Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны звярнулася з афіцыйным лістом да Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь В.Шэймана з просьбай спыніць парушэнні прававых нормаў у адносінах да помнікаў старажытнасці і дапамагчы ў стварэнні належнай сістэмы іх аховы, вызначанай адпаведным заканадаўчым актам Рэспублікі Беларусь.*

«Сучасная чалавечая супольнасць, — нагадвае гэты ліст, — надае асаблівае значэнне захаванню адметных культурных традыцыяў кожнага народа. У справе аховы архітэктурнай і горадабудаўнічай спадчыны распрацаваны і дзейнічаюць міжнародныя дакументы: канвенцыі, хартыі, пратаколы, якімі вызначаныя прынцыпы зберажэння рэстаўрацыі і выкарыстання адметных помнікаў дойлідства. Важнейшы з іх можна акрэсліць адной фразай: «Не нашкодзь!»

Яшчэ ў 1999 годзе на імя кіраўніка беларускага ўрада Лінга С.С. быў накіраваны адкрыты ліст творчай і навуковай грамадскасці, у якім выказвалася заклапочанасць з нагоды неаднаразовых фактаў парушэння прававых нормаў пры арганізацыі работ на помніках старажытнасці. Была створаная спецыяльная камісія, якая засведчыла, што шматлікія разбурэнні гістарычных будынкаў адбыліся на падставе дазволаў Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны. Аднак парушэнняў заканадаўства ў такіх дзеяннях камісія чамусьці не ўгледзела.

Але ў арт. 28 Закона аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны гаворыцца: «У мэтах непасрэднага забеспячэння захаванасці ***забараняецца знос***, перамяшчэнне, затапленне, стварэнне пагрозы існаванню, навукова неабгрунтаваныя змены або пагаршэнне (пагроза пагаршэння) тэхнічнага стану матэрыяльных нерухомых каштоўнасцяў».

Пры адназначнай забароне законам якіх-небудзь разбурэнняў будынкаў, за апошнія гады самым варварскім спосабам толькі ў г.Мінску спачатку знішчана ***аўтэнтычная*** гістарычная забудова на плошчы Свабоды 19, 21, а потым на вуліцы Камсамольскай 5,7,9. Ці гэта не прамое і адназначнае парушэнне закона?! Больш таго, у адносінах да гэтых будынкаў, як і адносна помнікаў архітэктуры на вуліцы Віцебскай, 10, комплексу будаўнікоў на вул.Герцэна 2, 2А, 4, на Энгельса, 2 парушаны артыкул 61 Закона аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны, у адпаведнасці з якім ***узгадненню дакументацыі*** на правядзенне работ па каштоўнасцях катэгорыі «0», «1» і «2» ***«павінен у абавязковым парадку папярэднічаць*** яе разгляд на паседжанні Навукова-метадычнай рады».

Камітэт па ахове гісторыка-культурнай спадчыны пры міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь увогуле не выносіў на разгляд Рады праектныя рашэнні па забудове на вул. Віцебскай, Камсамольскай і Энгельса, як і не былі разгледжаныя канчатковыя прапановы па арганізацыі работ на помніках па вул. Герцэна і пл.Свабоды. Узгадненне дакументацыі праводзілася кулуарна, што ў некаторых выпадках стала прычынай узвядзення на месцы ацалелых да нашага часу гістарычных будынкаў нічым не падобных да іх, большых па памерах і з іншым аздабленнем фасадаў, цалкам зменевай унутранай планіроўкай і дэкаратыўнымі асаблівасцямі, новабудоўляў. Ці не стаяць за гэтым карысныя інтарэсы пэўных камерцыйных структураў?



Мінск. Вул. Камсамольская. Зносяць помнікі, каб будаваць муляжы

Дарэчы, падобны стан справаў з выкананнем заканадаўства аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны назіраецца і ў адносінах да комплексу дамоў на пл.Свабоды 2,4,6,8,10. Неўзабаве маюць распачацца работы на будынку № 2, аб'ём якога звязаны з жыццём і дзейнасцю Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Станіслава Манюшкі, іншых вядомых дзеячаў культуры XIX ст. Але яго абследаванне да канца не праведзенае. Не вывучаныя інтэр'еры помніка. Навукова-метадычная рада свайго рашэння адносна арганізацыі работ не прымала. Шраг прынцыповых архітэктурных рашэнняў прымаецца пад націскам заказчыка, які зацікаўлены не ў захаванні гістарычных асаблівасцяў помніка, а ў задавальненні сваіх камерцыйных інтарэсаў.

Тое ж самае, ці не слова ў слова, можна сказаць і адносна мінскіх гандлёвых радоў. Археалагічныя даследаванні яшчэ з 1979 г. паказалі, што ў культурным слоі, найбольш ранняя датыроўка якога адносіцца да XII стагоддзя, захаваліся аўтэнтычныя канструкцыі, месцамі са скляпеннямі, з дзвярнымі праёмамі, іншымі архітэктурнымі элементамі, падвальнай часткай збудавання. Аднак работы на гандлёвых радах, падобна, плануецца правесці традыцыйным для беларускай «рэстаўрацыі» апошніх гадоў метадам пры дапамозе цяжкай землекапальнай тэхнікі. У такім выпадку не даводзіцца гаварыць пра захаванне аўтэнтычных важнейшых гістарычных сведчанняў, якія захоўваюцца ў культурным слоі, назапашаным за амаль тысячагадовы перыяд.

У апошні час на старонках беларускага друку разгарнулася дыскусія адносна будаўніцтва на вуліцы Няміга, насупраць Петрапаўлаўскай царквы, пяціпавярховай аўтастаянкі. Супраць такіх дзеянняў на тэрыторыі помніка горадабудаўніцтва і архітэктуры рэспубліканскага значэння гістарычнага цэнтра г.Мінска, якому нядаўна нададзеная катэгорыя аховы «1», выступаюць дактары і кандыдаты навук, грамадскія арганізацыі.

Адметна, што паводле п.1.5 Праграмы і ўмовамі адкрытага конкурсу на распрацоўку архітэктурнай ідэі «Шматузроўневай аўтастаянкі з аб'ектамі гандлёвага і адміністратыўнага прызначэння па вул.Няміга», зацверджанага 23 красавіка 1998 г. першым намеснікам старшыні Мінскага гарвыканкама Сянкевічам Г.П., у якасці зыходных дадзеных прадстаўлена «схема магчымага ***зносу будынкаў і збудаванняў*** з улікам праектуемага аб'екта ***ў ахоўнай зоне гістарычнага цэнтра г.Мінска»***. Большага абсурду і прыдумаць нельга!

Згодна з заканадаўствам, пад аховай дзяржавы на тэрыторыі гістарычнага цэнтра г.Мінска, як і іншых падобных аб'ектаў спадчыны, якраз і знаходзяцца ***«будынкі і збудаванні,*** планіровачная структура і ландшафт». А ахоўная зона «раёна старога горада Мінска «Верхні горад», зацверджаная рашэннем Мінскага гарвыканкама ад 21 лютага 1979 г. № 64, менавіта і створаная для вызначэння асобага рэжыму ўтрымання гістарычных аб'ектаў, размешчаных у яе межах. Арганізатарамі ж конкурсу, замест прапановы правесці рэгенерацыю тэрыторыі на падставе матэрыялаў комплексных навуковых даследаванняў, падрыхтоўка якіх вызначаная нарматыўнымі дакументамі, даецца прамое ўказанне на парушэнне дзеючых прававых нормаў. Пры гэтым, у склад журы ўваходзіць старшыня Камітэта па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Бубноўскі Д.С., які ў адпаведнасці са службовымі абавязкамі павінен быў забяспечыць безумоўнае выкананне патрабаванняў заканадаўства. Дарэчы, ён з'яўляецца і кіраўніком праекта адбудовы замка ў Міры і, такім чынам, сам сябе правярае!

Падобна, адпаведныя службовыя асобы спрабуюць прывучыць грамадскасць да фактаў злоснага невыканання патрабавання закона ў адносінах да аб'ектаў гісторыка-культурнай спадчыны. Тут назіраецца не чарада выпадковасцяў, а пэўная тэндэнцыя.

У рэстаўрацыі ёсць святое для кожнага спецыяліста правіла: там, дзе пачынаецца гіпотэза, заканчваецца рэстаўрацыя. У заканадаўстве гэта аксіёма выказаная дастаткова лаканічна і дакладна: «рэстаўрацыя – комплекс мерапрыемстваў, накіраваных на ***навукова абгрунтаванае аднаўленне*** страчаных фрагментаў і каштоўных якасцяў аб'ектаў». Прававыя нормы не патрабуюць прыводзіць аб'ект спадчыны да нейкага стылёвага адзінства. Наадварот, методыкай выканання рэстаўрацыйных работ вызначанае захаванне кожнага з элементаў помніка, якія сведчаць пра яго гісторыю і не ўступаюць у дысананс з акаляючым гістарычным акружэннем».

На заканчэнне ліста выказваецца традыцыйнае спадзяванне, што В.Шэйман пераадолее магчымы ціск зацікаўленых асобаў, які заўжды ішоў на тых супрацоўнікаў пракуратуры, якія мужна спрабавалі абараніць нашыя помнікі гісторыі і культуры ад знішчэння.

Надзея, як усе ведаюць, паміране апошняй. Што добра сведчыць гісторыя нашай архітэктурнай спадчыны – помнікі вынішчаюць, а надзея жыве і жыве.

**Юры ВАЎЧКОВІЧ**



Мінск. Няміга. Месца, запланаванае пад паркінг

## Ахоўнікі , зброя і мабільнікі вызначаюць характар візіту Аляксія II

У Мінску непараўнальна большыя натоўпы асаджваюць электрычку на Пухавічы, чым сабралася людзей у мінулую суботу на сустрэчу з патрыярхам Аляксіем II ля Свята-Сымонаўскага кафэдральнага сабора. Падраздзяленне АМАПу ў шэрым аўтобусе і штыхі міліцыянтаў абапал шашы маскоўскага накірунку палахліва апускалі долу вочы, калі рэдкія мінакі, асабліва дзеці, дзівіліся іх экіпіроўцы, зашпіленай, як гаворыцца, пад самае горла ў гарачы дзень. Цесна было толькі ўнутры храма. Высакарослыя целаахоўнікі, модныя фрэнчы якіх адтапырвала збоку прыхаваная зброя, нахабна адпіхвалі тэлевізіёншчыкаў і фотакарэспандэнтаў, пагрозліва пакрыкваючы на астатніх не наближацца да мяккіх дываноў, якія паслалі для праходу патрыярха.



Аляксій II прыбыў на берасцейскую кафэдру асвяціць адмысловы футляр (стаўратэку) для так званага крыжа Еўфрасінні Полацкай, зроблены тамтэйшым мастаком-ювелірам Мікалаем Кузьмічом. Са Свята-Крыжаўзвіжанскага сабора Полацкага Спаса-Еўфрасіненненскага манастыра для гэтага быў дастаўлены крыж-муляж зніклага ў чэрвені 1941 года легендарнага вырабу манаха Лазара Богшы. Патрыярх з малітваю на вуснах абышоў стаўратэку з кадзілам і самаручна ўклаў у яе зроблены тры гады таму М.Кузьмічом крыж.

Пад аховай узброенай міліцыі і святароў з мабільнікамі накіраваўся Аляксій II у наступныя тры епархіі беларускага Палесся. Пасля сустрэчы ў Брэсце з А.Лукашэнкам ён, напэўна, абавязаны прасіць вернікаў у Іванаве, Століне, Тураве, Хойніках і Гомелі падтрымаць палітычныя амбіцыі найбольш разрэкламаванага прэтэндэнта. Падставай для такога перакanання служыць прынятае Свяцейшым паднашэнне ў выглядзе каштоўнага нагруднага крыжа, які 45 дзён майстраваў з золата па разгаданай старажытнай візантыйскай тэхналогіі эмальер М.Кузьміч. Вядома таксама, што напрыканцы пілігрымкі Аляксій II атрымае ад Лукашэнкі дзве адмысловыя харугвы для храма Хрыста Збавіцеля, коштам 100 тысяч долараў. Гэта таксама прымушае думаць, што асноўнай мэтай візіту патрыярха застаецца выкананне ранейшых дамоўленасцяў з Лукашэнкам аб палітычнай падтрымцы сярод вернікаў праваслаўнай канфесіі.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

**ВАЙНА**

## Песні ў Брэсце – не ўсім па душы

Мерапрыемствы з нагоды 60-годдзя з дня пачатку вайны неадназначна ўспрымаюцца нашым грамадствам. Галоўнай задумай была акцыя «Цягнік Памяці», каб «сродкамі культуры паказаць, што трагічныя падзеі далёкага 1941 года, мужнасць і гераізм абаронцаў Брэсцкай крэпасці, Мінска, Смаленска, Масквы сталі пралогам Вялікай Перамогі, нагадаць, якой цаной яна заваяваная, і што ахвяры былі недарэмныя». Але нашто сродкамі культуры паказваць тое, што адчуваецца сэрцам. Атрымалася – падобна канцэрту на могілках. Як паведамляў БелаПАН, былы міністр абароны Рэспублікі Беларусь, магчымы кандыдат у прэзідэнты Павел Казлоўскі, які прыехаў у Брэст 22 чэрвеня, лічыць, што «на горы ўлада ладзіць шоу дзеля аднаго чалавека». «Мой бацька таксама загінуў на вайне. І мне балюча глядзець, што ў сумны дзень у горадзе арганізаванае шоу. Я веру, што Зыкіна плакала ад чыстага сэрца, але не варта было рабіць вечарам канцэрт з выступленнямі артыстаў. І гэты прыезд патрыярха 23 чэрвеня... Усё гэта гульня дзеля аднаго чалавека», – сказаў Павел Казлоўскі.

Неадназначная рэакцыя на тое, што адбывалася ў Брэсце, засведчана і сярод ветэранаў. «Я прыйшоў бы ў крэпасць у 4 гадзіны, нават калі б не было мітынгу смутку. Я ваяваў і не магу забыць гэтую дату. Хацеў бы, але забыць не даюць. Калі даведаўся, што вечарам для моладзі будзе выступаць нейкая музычная група, слёзы пацяклі. Мне крыўдна...», – сказаў ветэран-танкіст.

Няцяжка зразумець здзіўленне людзей. Засланяючыся гераізмам абаронцаў Брэсцкай крэпасці, улады забыліся сказаць і адзначыць, што толькі ў першы дзень вайны немцы здолелі прайсці на нашую тэрыторыю на глыбіню 50-60 кіламетраў. Вечарам таго дня войскі атрымалі дырэктыву перайсці ў наступленне. У гэты час ужо было знішчана 1.200 нашых самалётаў на аэрадромах. Не маючы падтрымкі з паветра, армія лезла пад агонь ворага, давяршаючы свой поўны разгром. Агульныя страты першых трох тыдняў вайны склалі амаль мільён чалавек – у параўнанні з 80 тысячамі ў немцаў.

Шмат гаворачы аб перамозе і гераізме, ніхто з кіраўнікоў не ўзгадаў аб лічбах стратаў. Германія, прайграўшы вайну, страціла 7 мільёнаў чалавек, СССР, які перамог, за чатыры гады страціў 30 мільёнаў. Калі ўдумацца – бярэ жах.

Да гэтых стратаў трэба далучыць і 35 мільёнаў чалавек, якія загінулі ў выніку рэпрэсіяў.

У першыя дні вайны патрапіла ў палон каля 3,5 мільёнаў чалавек, на тэрыторыі Беларусі – 1,5 мільёна. Іх палічылі здраднікамі. Пасля вайны 1,6 мільёна палонных, якія прайшлі нямецкія лагеры, кінулі ў сталінскія лагеры як здраднікаў. Сталінскі рэжым быў па-звярынаму бязлітасны найперш у адносінах да сваіх людзей. Вялізарныя ахвяры не павінны закрывацца заслонай «гераізму». Бо пры гэтым здраджваецца памяць мільёнаў.

**Юры ФІЛІПОВІЧ**

ФЕСТЫВАЛІ

## 10 гуртоў наблізіліся да «Басовішча-2001»

Адборачны тур штогадовага фэсту «Басовішча-2001» праходзіў 21 і 22 чэрвеня, у мінскім клубе «Танэль». Варта адзначыць прыемны сюрпрыз для прысутнай моладзі – прыезд на адборачны канцэрт Сямёна Домаша, магчымага кандыдата ў прэзідэнты, які ўваходзіць у дэмакратычную «пяцёрку». Дарэчы, як высветлілася, сп. Домаш вялікі прыхільнік творчасці лідэра гурта «*N.R.M.*» Лявона Вольскага, што ў прыватнай гутарцы і было засведчана рокеру.

Рок-фэст «Басовішча» ладзіцца ў ваколіцах Гарадка (мястэчка на Беласточчыне) Беларускім аб'яднаннем студэнтаў (БАС) штолета ў ліпені. На фэсце ва ўмовах конкурснай праграмы на працягу двух дзён выступаюць маладыя беларускамоўныя каманды з Беларусі і Польшчы. Па выніках конкурснай праграмы адбіраецца лепшы гурт, які атрымлівае права запісацца ў адной з прафесійных студыяў Польшчы.

З мінулага года інтарэсы «Басовішча» ў Беларусі прадстаўляе БМ*Agroup*, якая праводзіць папярэдне праслухоўванне дэма-запісаў маладых рок-гуртоў, а пазней, за месяц да «Басовішча», ладзіць адборачны тур. Да ўдзелу ў галасаванні запрашаюцца музычныя журналісты і знаныя беларускія рок-музыкі.

Сёлета ў адборачным туры паказвалі сябе каля трыццаці камандаў з Мінска і рэгіёнаў краіны (усяго было праслухана сорак дэма-запісаў). Прадстаўленыя былі ўсе рэгіёны.

21 чэрвеня выступалі гурты «Сцяг» (Горкі), «Мэтро» (Жодзіна), «Анархасіс» (Столін), «Мэры Лонг» (Мінск), «ВМН» (Салігорск), «БН» (Бяроза), «Бан Жвірба» (Гомель), «Цмокі» (Мінск), «Сталіца» (Мінск), «*Homo Errectus*» (Гомель), «*Impett*» (Мінск). Паводле апытання глядацкія сімпатыі заваявалі гомельскі «Бан Жвірба».

22 чэрвеня ў конкурснай праграме удзельнічалі каманды «Голая Манашка» (Мінск), «Квінтус Брум» (Мінск), «Сцяна» (Брэст), «Твар» (Гародня), «Зьніч» (Мінск), «СРК» (Гародня), «Нова» (Мінск), «*Rum & Ice*» (Маладзечна), «*The Ravens*» (Мінск), «*Pet Nihil*» (Гародня), праект «*Splanetic*»+Алесь Таболіч (Мінск), «*Happy Face*» (Маладзечна), «*Aquamorta*» (Мінск), «*Galina Вэzи*» (Мінск), «*Exist & Харві*» (Мінск).

Асноўная інтрыга адборачнага тура разгортвалася 22 чэрвеня, калі паводле падліку галасоў журы былі высветленыя імёны камандаў з Беларусі, якія паедуць на фэст «Басовішча-2001» (20-21 ліпеня). Адзначана дзесяць лепшых гуртоў: «БН», «Бан Жвірба», «Голая Манашка», «Цмокі», «Зьніч», праект «*Splanetic*»+ Алесь Таболіч, «*Aquamorta*», «*Happy Face*», «*Galina Вэzи*», «*Impett*».

Як паказваюць вынікі музычнай творчасці гуртоў, «Басовішча» стала даволі сур'ёзным і салідным фэстам.

**Ірына ТОЎСЦІК**



У Сямёна Домаша бяруць аўтографы яго прыхільнікі

СВЯТЫНІ

## Каб паскорыць вяртаньне святой Ганны ў Полацк

Сёлета ў Полацку нарэшце згадалі пра былы Бэрнардзінскі кляштар, які стаяў на левым беразе Дзьвіны пры ўпадзеньні Крыўцова ручая. У 1758 годзе полацкія бэрнардзіны пабудавалі ў Задзьвіньні касьцёл Сьвятой Ганны і актывізавалі ў горадзе сваю місіянэрскую дзейнасьць. Пасьля захопу беларускіх земляў Расеяй большасьць каталіцкіх бажніцаў у Полацку была зачынена, зьніклі з гораду і бэрнардзіны, а іх кляштар новыя ўлады перадалі праваслаўным.

За саветамі кляштар спачатку быў турмою, а затам псыхіятрычным шпіталем, які месьціцца ў брацкім кляштарным корпусе па сёньняшні дзень. Дарэчы, руіны касьцёлу Сьвятой Ганны – гэта ўсё, што засталося ад былых каталіцкіх бажніцаў у Полацку. Сёлета напачатку года старшыня гарвыканкаму Уладзімер Тачыла праз газэту «Полацкі веснік» выказаў прапанову пачаць аднаўляць бэрнардзінскі касьцёл. Кіраўнік полацкага гістарычнага клюбу «Вытокі» Міхась Баўтовіч прапанаваў гарадзкім уладам плян працы па кансэрвацыі рэшткаў храму. 21 чэрвеня «вытокаўцы» пачалі працу на гістарычным аб'екце. Яны папрабуюць адкрыць падмуркі храму і правесьці іх пачатковую кансэрвацыю.

**Алесь КОЗІК**

# Сані летам не рыхтаваць...

*8 лютага наступнага года ў амерыканскім Солт-Лейк-Сіці пачнуцца чарговыя зімовыя Алімпійскія гульні, дзе будуць разыграныя ўзнагароды ў 15 відах спорту. У дзевяці з іх аспрэчваць медалі маюць намер беларускія спартсмены. Дакладней, гэта самы аптымальны варыянт, таму што для выступлення трэба набыць спецыяльныя ліцэнзіі, для чаго, у свой час, паказаць у адборачных спаборніцтвах вынікі не ніжэй за «прахадныя». На сённяшні дзень у актыве нашай каманды ўжо ёсць 64 «дазволы» ў 7 алімпійскіх дысцыплінах. Усяго ў планах мінспорту існуе задумка паслаць на Алімпіяду больш за 70 лепшых. Спадзяемся мы на ўдалы адбор яшчэ ў каньках і шорт-трэку.*

Але самымі, калі так можна сказаць, «забойнымі», медаленоснымі павінны стаць біятлон, фрыстайл і, упершыню за гісторыю нашага алімпійскага летапісу, лыжныя гонкі. Кожны з алімпійцаў ні ў якім разе не будзе абдзелены ў сэнсе грошай для паўнацэннай падрыхтоўкі. Агульная сума ўсіх расходаў трымаецца амаль у дзяржаўным сакрэце, але вядома, яна будзе ў два разы ніжэй за тую, што патрацілі на Сіднеі. Сродкі для гэтага знойдзеныя і, калі спатрэбіцца, будуць выцягваць адусюль. Адзіны шлях ужо добра апрабаваны: значна «ўрэзаныя» ўсе неалімпійскія летнія віды спорту, а тое, што такі размен можа адгукнуцца ў будучым, нікога не хвалюе. Як кажуць, там хоць трава не расці... Усё для Алімпіяды. Зімовай. Прыйдзе летняя, штo-небудзь прыдумаем. Як заўсёды.

Вас, канешне, зацікавіць плануемае месца для самага «любімага дзіцяці» — хакея. Канкрэтна аб ім ніхто не гаворыць, але, хутчэй за ўсё, гэта будзе традыцыйны восьмы радок. Хаця б таму, што беларускае кіраўніцтва вабяць толькі вынікі з першага па, якраз, восьмае. У сувязі з гэтым, яшчэ нават не вызначылася стратэгія і тактыка дзеяння ў Амерыцы, і, каб намецiць нейкія планы, чакаюць, калі прэзідэнт НАК назначыць сход Алімпійскага камітэта ды выканкама для вырашэння гэтай задачы.

З біятланістамі ўзнікае толькі адна праблема: пакуль не хоча вяртацца ў зборную ўдзельніца трох Алімпіядаў Святлана Парамыгіна, лідэр жаночай зборнай, спасылаючыся то на вучобу, то дрэнныя адносіны з галоўным трэнерам і гэтак далей. Хутчэй за ўсё стаць уладальнікам унікальнага рэкорда – пабываць чатыры разы (16 гадоў) на галоўных стартах жыцця ёй не ўдасца.

Поўным ходам рыхтуюцца фрыстайлісты, «перасковваючы» з аднаго кантынента на другі (зараз яны знаходзяцца ў ЗША, потым накіруюцца ў Аўстралію); плануюць прыняць удзел ва ўсіх этапах Кубка свету для набыцця вопыту і формы. Іх галоўны сапернік, амерыканцы, не прадставілі вучням Мікалая Казекі магчымасць правесці трэніровачны збор на алімпійскім трампліне, але выхад з праблемы быў знойдзены і асноўнай базай нашы скакуны выбралі Лэйк-Плэсід, які знаходзіцца ў тых жа геаграфічных умовах, што і Солт-Лейк-Сіці.

Вельмі доўгі час нічога значнага не паказваюць у розных спаборніцтвах беларускія лыжнікі, пляскаючы ў далоні, нават заняўшы месца ў «трыццатцы». Нікога такія вынікі, па вялікім рахунку, задавальняць не могуць, вырошчваць сваіх «геніяў лыжні» няма ні часу, ні рублёў, ні, калі чэсна, за такія грошы, жадання. Таму і было прынятае «саламонава» рашэнне — хутка набыць зорак з-за мяжы, з Расіі. Яшчэ пакуль вядомая ў лыжным свеце 32-гадовая Святлана Нагейкіна, якая не праходзіць у склад расійскіх зборных пад нумарамі ад 1 да 3, і яшчэ тры «маладайкі» адразу змянілі свае пашпарты на беларускія. Можа «варагі» нам і дапамогуць узняцца ў лік дваццаці лепшых, але такі вынік будзе, як мёртваму прыпаркі. На мой погляд, даўно трэба было знайсці ў сабе мужнасць і пачаць ад пачатку. А гаворкі, што тая ж Нагейкіна сваёй прысутнасцю будзе нейк уплываць на майстэрства юных беларусак — смеху варта. Лепш бы гэтыя грошы патрацілі на закупку лыжаў для школаў.

Санны спорт, бобслей, горныя лыжы, кёрлінг, сноўборд...Тут мы сваіх прадстаўнікоў не маем. Вельмі слабыя шанцы захоўваюць нашыя прадстаўнікі ў скачках з трампліна, лыжным двухбор'і, канькабежным спорце, фігурным катанні, шорт-трэку. Не, мы заявімся ў першых двух з пералічаных, ужо маем адну ліцэнзію – Юлія Салдатава – у фігурыстаў, абяцае трапіць на Алімпіяду канькабежка Анжэла Кацюга, штосьці плануюць, зноў жа расійскія, спецыялісты шорт-трэка, будзе адбірацца яшчэ адзін фігурыст Сяргей Давыдаў, таксама былы жыхар нашай усходняй суседкі. Аднак узровень іх майстэрства да «алімпійскага» яўна не дацягвае. З Анжэлай увогуле цікавая гісторыя можа атрымацца. Яна напісала звычайную распіску міністру спорту, у якой просіць дапамагчы ў фінансах, узяць на Алімпіяду і, у выпадку няўдачы, калі не апынецца ў васьмёрцы ў забегах на 500 і 1.000 метраў, абяцае вярнуць усё да капейкі... Як бы там ні было, але мінспорт пайшоў на гэтую «здзелку», своеасабліва «абясточыўшы» ўсю федэрацыю канькабежнага спорту рэспублікі, аддаўшы ўсе яе грошы адной Кацюзе. Астатнія вымушаныя былі павесіць свае канькі на цвік.

Напэўна, вы ведаеце нешта аб кёрлінгу і сноўбордзе. Можа калі-небудзь папулярныя зараз у свеце віды спорту з'явяцца і ў нас, але зараз, як гаворыць, не да жыру. Спецыяльна пабудаваная гара для сноўборду каштуе 250 тысячаў долараў. Калісьці, напрыклад, у Раўбічах мы яе зробім, як і санную трасу ці жолаб для бобслея. Пакуль жа маем, што ёсць.

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА**

ФУТБОЛ

## Старыя знаёмыя...

Можа не вельмі ўдалай атрымалася жараб'ёўка для чатырох беларускіх футбольных клубаў, якія сёлета выступяць у розыгрышу Лігі чэмпіёнаў і Кубку УЕФА. Мінулагодні чэмпіён — мазырская «Славія» хаця і сустрэнецца на першым этапе з невядомым у футбольным свеце клубам «Вагур» (Фарэрскія астравы ), якога яна, безумоўна, павінна абыграць, у другім крузе трапіць на вядомы ўжо брацілаўскі ІНТЭР.

У кваліфікацыйным раўндзе Кубка УЕФА салігорскі «Шахцёр», дэбютант еўрапейскіх турніраў, сустрэнецца з балгарскім ЦСКА, барысаўскі БАТЭ – з тбіліскім «Дынама», а ўладальнік Кубка Беларусі — бабруйская «Белшына» — паспаборнічае са славацкім «Ружомберкам».

Амаль усе сапернікі добра вядомы, за выключэннем фарэрцаў, нашым спецыялістам і футбалістам, асабліва два калектывы са Славакіі, таму ўжо вельмі вялікай занепакоенасці не выказвае ніхто.

Яшчэ адзін, пяты, прадстаўнік Беларусі ў еўрапейскіх спаборніцтвах, мінскае «Дынама» правёў учора паўторны паядынак 1 раунда Кубка ІНТЭРТОТА ў Люксембургу супраць мясцовага «Хобшайда». На момант падпісу нумара мы яшчэ не ведалі яго вынік, але хатняя перамога сталічнай каманды з лікам 6:0 павінна была зняць пытанне аб перамозцы гэтай пары яшчэ тыдзень таму.

**Уладзімір ДАЎЖЭНКА**

# Астрологический прогноз

## от Вероники Кудрявцевой на 25 июня – 1 июля

***Астропрогноз отражает общий природный социально-психологический фон наподобие прогноза погоды. Индивидуальное прогнозирование строится на точных данных: учитываются день, месяц, год, место и время рождения человека.***



**ОВЕН**. К вам может поступить просьба вернуться к прежним финансовым обязательствам или работе в понедельник. И, похоже, что предел ожидания установится до конца недели. В этом же смысле, в выходные дни высока вероятность потерь, обманов, непредвиденных обстоятельств, ложного реформаторства со стороны единомышленников, друзей или членов команды. Полагайтесь на «старую гвардию», в четверг может состояться солидный союз или соглашение.



**ТЕЛЕЦ**. Вы можете быть увлечены вернувшейся «старой любовью» в понедельник, страстным свиданием или же повторившейся удачной операцией. Если не совсем устраивает бюджет – сделайте что-нибудь в четверг, пообщайтесь с теми, от кого это зависит. У вас пока приличные отношения с вышестоящими или властными персонами. Однако в выходные дни нависает опасность неожиданных революций с их стороны или по существу со стороны единомышленников.



**БЛИЗНЕЦЫ**. Вы просто воспринимаетесь как оплот мира и стабильности. Но в понедельник не помешает переговорный процесс по поводу возвращения приятных и нужных во всех отношениях лиц или столь же небезразличных вам денежных сумм. Вас любят, уважают и считаются с мнением. Однако готовьтесь к открытому процессу или выступлению – он на пороге. И в выходные дни может грянуть буря, захлестнуть черный пи-ар, берегите сосудистую систему.



**РАК**. В понедельник в ваших силах оказать помощь или заняться совместными проектами со своим единомышленником или другом противоположного пола. Чувствуется, что у вас крепкие тылы, восстанавливается спокойствие и укрепляется здоровье. Опасайтесь в конце недели болезни или заговора людей, которым вы могли доверять. В выходные дни не стоит никого провоцировать, заниматься коллективными мероприятиями и авиаперелетами.



**ЛЕВ**. На работе устанавливается спокойный и доброжелательный микроклимат. В понедельник вас опять возвращают к проблемам устройства или развлечения детей, заметных творческих личностей, причем вы способны добиться хорошего результата. В четверг пожилой человек может оказать ценную услугу. Однако в выходные дни намечаются неожиданные распри, неприятности с супругом или целым коллективом, которые ведут себя неадекватно, порой возмутительно.



**ДЕВА**. Издалека в понедельник прибывает небезразличный вам гость. Он даже способен несколько улучшить ваш имидж на работе, оказать медицинскую услугу. Дети или находящийся рядом любимый человек создают ощущение надежного тыла. Во всяком случае, вы можете слегка успокоиться. А в выходные начинается сумбур, женские козни, вероятны нарушения эндокринного характера, не рекомендуется совершать дальние поездки.



**ВЕСЫ**. Есть основания быть довольным своим социальным статусом. Кто-то, наконец, обретет покой в «официальной» любви, дети успокоят своими успехами или вероятностью появления на свет, а кто-то будет удовлетворен оформившимися результатами творческой работы. Но жизнь полна импровизаций, особенно в выходные дни, когда любимый человек или авантюрный игрок способен «пустить по миру».



**СКОРПИОН**. В понедельник супругу или партнеру возвращаются денежные переводы, и вам тоже от этого неплохо, а встреча со страстной любовью наполняет энергией. Вы укрепляете тылы, способны решить серьезные проблемы с квартирой или офисом. Неприятных неожиданностей можно ожидать среди родных и близких в выходные дни, поэтому постарайтесь уберечь их от катаклизмов. Не забывайте проверить на это время надежность охранной сигнализации или дверных замков.



**СТРЕЛЕЦ**. Если вы вернетесь к одной из прежних коммерческих задач или к прежней любовной связи, то постарайтесь быстро определиться, в течение рабочей недели, поскольку в выходные дни можете все потерять. В самом конце недели вероятны крупный скандал, выброс компромата, в том числе личного характера, возрастает роль несчастного случая, постарайтесь не летать самолетами. Такой семейной или партнерской стабильности, как на этой неделе, редко удается достичь.



**КОЗЕРОГ**. В понедельник намечается тайная личная встреча, вероятно, с кем-то, кто вернулся издалека. Вам готовы оказать и финансовую поддержку. Не оттягивайте принятие решений до конца недели, поскольку ситуация может резко измениться. В целом, состояние дел на работе и объем копилки вас весьма устраивает, можно даже слегка расслабиться. Но в выходные дни намечается революция как в личной жизни, так и в финансовом смысле, результаты которой мало способны порадовать.



**ВОДОЛЕЙ**. Вы находитесь «под крышей» мудрого человека. Не спите, с понедельника предпринимайте разработанные ранее шаги. В выходные дни женщина нарушит покой, может принести несчастье, а обвинят Водолея. Не исключено также проникновение в квартиру непрошеных гостей, особенно в воскресенье. Но в течение недели никто так не способен насладиться вниманием и трогательной любовью, как вы. Старший или великовозрастный ребенок добивается крупного успеха.



**РЫБЫ**. Флирт опять возвращает к забытому роману. Кто-то готов пересмотреть свое отношение к прежней работе. Запасной аэродром готов, родственники в полном порядке, и кажется, что все спокойно. Самый черный пи-ар, анонимки намечаются в выходные дни, кто-то готов спровоцировать крупный скандал, с поисками пропаж и разоблачениями. Нежелательно в этот период много ездить – вероятен несчастный случай.

Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1727 Нумар падпісаны ў друк 17/06/2001 (15:00) Наклад – 9.050